# ЭКСПРЭС



АДНАДЗЕНКА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ "АДРАДЖЭНЬНЕ"
Выданьне Аргкамітэту. **Выпуск 3.** Чэрвень 1989.

---

● ДА УСТАНОУЧАГА ЗЬЕЗДУ ЗАСТАЛОСЯ ДВА ТЫДНІ

З а я в а

У Прэзідыум
Вярхоўнага Савета БССР

Па даручэньні Аргкамітэту БНФ "Адраджэньне" 23 траўня мы падалі ў Менгарвыканкам заяву (адзін з экзэмпляраў яе прыкладаецца) на правядзеньне Устаноўчага зьезду, які павінен прыняць Статут, Праграму і абраць кіраўнічыя органы БНФ, а таксама вызначыць галоўныя напрамкі яго дзейнасьці на бліжэйшую персьпектыву.

Пад час папярэдніх перамоваў з сакратаром гарвыканкама Л.Валодзькінай высьветлілася, што вырашэньне некаторых арганізацыйных пытаньняў выходзіць за межы кампетэнцыі гарсавета. Найперш гэта датычыць асьвятленьня рэспубліканскімі сродкамі масавай інфармацыі падрыхтоўкі і правядзеньня дадзенага мерапрыемства, памнажэньня дакументаў Зьезду, а таксама выкарыстаньня пад час яго нацыянальна-гістарычнай сімволікі беларусаў.

Мы зьвяртаемся да Прэзідыума з надзеяй, што ён дапаможа выканаўчым органам пераадолець нечаканыя перашкоды. Такая дапамога ўяўляецца нам тым больш неабходнай, што станоўчае ці адмоўнае вырашэньне пытаньня пра распаўсюджаньне сярод дэлегатаў і гасьцей Зьезду неабходных дакументаў і матэрыялаў, а таксама пытаньне пра выкарыстаньне сімволікі, знаходзяцца ў прамой залежнасьці ад адпаведнага тлумачэньня і прымяненьня Указу Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларускай ССР ад 31 сакавіка 1989.

Спадзяемся, Прэзідыум знойдзе магчымасьць аператыўна растлумачыць выканаўчым і праваахоўным органам, што старажытныя харугвы, гербы і сьцягі, нацыянальныя арнаменты і строі -- гэта зусім ня тыя рэчы, якія падлягаюць рэгістрацыі ў Міністэрстве замежных справаў, а Статут, Праграма, ініцыятыўныя законапраекты БНФ (яшчэ да абмеркаваньня і прыняцьця іх Зьездам) -- гэта зусім ня тыя публікацыі, "зьмест якіх накіраваны на нанясеньне шкоды дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян". Асабліва, што датычыць правоў і законных інтарэсаў тых грамадзянаў Рэспублікі, якія зацікаўленыя ў стварэньні масавага народнага руху за рэвалюцыйнае і гуманнае абнаўленьне грамадства.

24 траўня 1989.

Міхась Дубянецкі,
Вячаслаў Жыбуль.

С п р о б а   п р а г н о з у

Першы ж раўнд перамоваў, які адбыўся 23 траўня, паказаў, што Менгарвыканкаму ня дадзена права на канчатковае рашэньне адносна Устаноўчага зьезду БНФ. Пачалося тое, што і павінна было пачацца -- канцылярская гульня.

Давялося на наступны ж дзень несьці адзін з экзэмпляраў

"заявы дзевяці" (гл. "Экспрэс", травень 1989, вып. 2) у Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі і прыкладаць да яго зьмешчаную вышэй заяву. Яшчэ адна заява тлумачальнага характару (у ёй агаворвалася працягласьць арэнды памяшканьня для Зьезду, колькасьць месцаў у зале і г.д.) была дадаткова пададзеная ў Менгарвыканкам.

Гарсавет і Прэзідыум распачалі доўгую партыю пінг-понгу, дзе ўпаўнаважаным Аргкамітэту (М.Дубянецкаму, С.Леўшунову і мне, В.Жыбулю) адводзілася, вядома ж, ня роля ракетак. Але нечакана для Прэзідыума і на радасьць гарвыканкама ўжо на чацьвертым раўндзе перамоваў быў зафіксаваны поўны разрыў "дыпламатычных адносінаў" паміж бацькамі горада і Аргкамітэтам. На наступны дзень, 1 чэрвеня, нашая дэлегацыя была запрошаная ў Прэзідыум.

Стол у зале паседжаньняў быў застаўлены дыктафонамі. Тоўсты шнур ад студыйнага мікрафона цягнуўся кудысь пад стол. Магчыма, да аграмадных памераў магнітафона, што пагрозьліва гуў наводдаль. (То былі займеньнікі высокіх гаспадароў будынка.) Па той бок стала сядзела брыгада абазнаных юрыстаў -- па адным ад Прэзідыума, ад Саўміна, ад Міністэрства юстыцыі і гарсавета. Яны не маглі прымаць рашэньні. Яны выконвалі чужую волю. А воля тая, як я разумею, была: не пушчаць! На ражне, а не на Зьезьдзе хацела б бачыць нашае Начальства і Аргкамітэт у такім непаслухмяным складзе, і такія раённыя рады БНФ, што зьбіраюць перад Домам ураду мітынгі, каб прымаць там рэзалюцыі-тэлеграмы на адрас Зьезда народных дэпутатаў СССР пра палітычны недавер Я.Сакалову і Г.Таразевічу.

Тым ня менш перад юрыстамі стаяла нялёгкая задача. Бо ЗАКОННЫХ ПАДСТАВАЎ ДЛЯ ЗАБАРОНЫ ЎСТАНОЎЧАГА ЗЬЕЗДУ БНФ НЯМА. Значыць, трэба дазваляць. А дазваляць -- нельга, бо Начальства нашае і ёсьць Закон наш. І зноў пачалася вядомая нам па першых раўндах у гарсавеце гульня. Ад нас патрабавалі і выпіскі з пратаколаў Аргкамітэту, і поўны збор подпісаў усіх яго сяброў, і дакладны сцэнар правядзеньня Зьезду. Юрыстаў не задаволіла ані квота дэлегатаў, ані парадак рэгістрацыі групаў падтрымкі, ані склад запрошаных дэлегацыяў ад іншых рухаў за перабудову. Яны настойліва раілі нам падаць у Прэзідыум для папярэдняй экспертызы (чытай: цэнзуры) праекты Статута і Праграмы БНФ, а таксама праекты зьездаўскіх рэзалюцыяў. Нам давалі зразумець, што для атрыманьня дазволу на правядзеньне Зьезду ад нас патрабуецца поўны і безумоўны давер да Начальства. Але і мы зразумелі, што Начальству шмат чаго не хапае, каб аднавіць свой поўны і безумоўны дыктат над намі.

Карацей, перамовы зайшлі ў тупік. Не люблю даваць прагнозы, але сёньня я перакананы, што ад Начальства ня будзе ані афіцыйнага дазволу, ані афіцыйнай забароны. А неафіцыйная -- яна ўжо ёсьць. Так што ўсе надзеі на саветы працоўных калектываў і мужнасьць тых кіраўнікоў установаў, прадпрыемстваў і творчых саюзаў, якія дадуць Фронту на 2 -- 3 дні патрэбнае памяшканьне і вытрымаюць гнеў Начальства. І вядома ж, надзея на актыўнасьць кожнага сябра і кожнага прыхільніка "Адраджэньня". Іх многія сотні тысяч, і яны, я веру, скажуць сваё слова. Зьезд павінен адбыцца "пры любым надвор'і".

Вячаслаў Жыбуль.

## ● РАБОЧЫ РУХ

20 траўня адбылася Устаноўчая канферэнцыя Рабочага саюзу Клайпеды. Разам з гасьцямі з Таліну, Ленінграду, Калінінгра-

ду, Яраслаўлю ў рабоце Канферэнцыі ўзялі ўдзел рабочыя зь Менску, актывісты БНФ М.Собаль і В.Іофэ. Стварэньне новай арганізацыі віталі з трыбуны сакратар гаркама КПЛ, старшыня Клайпедскага гарвыканкаму, сябры Рады Сойму "Саюдзіса", народныя дэпутаты СССР, прадстаўнікі Лігі Свабоды Літвы і Дэмакратычнай партыі Літвы.

Рыхтуючыся да Зьезду Рабочага саюзу Літвы, які ў хуткім часе адбудзецца ў Вільні, клайпедскія рабочыя абмяркоўвалі свае задачы і патрабаваньні: падтрымліваць праграму "Саюдзіса"; змагацца з дыктатам саюзных ведамстваў, нявольніцкай псіхалогіяй; дэмакратызаваць структуру кіраваньня прадпрыемствамі; выставіць сваіх кандыдатаў на выбарах у мясцовыя Саветы; спрыяць утварэньню галіновых прафсаюзаў; супрацьстаяць падмене абаронных функцыяў прафсаюзаў функцыямі разьмеркаваньня.

Беларуская дэлегацыя пазнаёмілася з досьведам станаўленьня рабочага руху ў Балтыйскіх рэспубліках. Былі абмеркаваныя персьпектывы Рабочага Саюзу Беларусі.

## ● ХРОНІКА

25 т р а ў н я. Прыблізна а 17.00 на плошчы Леніна каля Дома ураду распачаў галадоўку 38-мігадовы рабочы Міхаіл Собаль. Прычына ягонай акцыі -- правал усіх дэмакратычных прапановаў ужо ў пачатку Зьезда народных дэпутатаў СССР. Падтрымліваючы прапанову Алеся Адамовіча спыніць на час работы Зьезда дзеяньне Закона аб парадку арганізацыі мітынгаў, М.Собаль патрабаваў зачытаць тэлеграму, дасланую ім у прэзідыум Зьезда:

"Буду голодать, находясь у Дома правительства с текстом телеграммы, пока ее не зачитают Съезду народных депутатов СССР. Вы решаете судьбы народа в ситуации, когда избиратели не имеют законного элементарного права: поддержать депутатов -- выразителей их мнения резолюцией митинга или собрания, демонстрацией. В то же время голосующие на Съезде против воли избирателей остаются неизвестными. Где логика и здравый смысл?

25 мая 13.00, М.Соболь."

26 т р а ў н я. На плошчы перад галадоўшчыкам бесперапынна зьбіралася ад 10 да 200 чалавек. Сваімі подпісамі людзі пачалі далучацца да яго патрабаваньняў. Увечары адбылася сумесная нарада Арганізацыйнага камітэту і кіраўнікоў радаў БНФ "Адраджэньне", на якой было вырашана пераканаць М.Собаля спыніць галадоўку, паколькі кантрольны пакет галасоў у руках наменклатурнай большасьці рабіў ягоную акцыю заведама тупіковай. На плошчу Леніна накіравалася група прадстаўнікоў Аргкамітэту, але М.Собаль адмовіўся спыніць галадоўку і пагадзіўся толькі на тое, каб ягонае знаходжаньне на плошчы не было кругласутачным -- прыняў прапанову начаваць дома. Уначы пра галадоўку было паведамлена па тэлефоне народнаму дэпутату СССР Алесю Адамовічу.

27 т р а ў н я. М.Собаль атрымаў тэлеграму:

"Дорогой Михаил, на Съезде все не так уж плохо, и те указы, против которых Вы протестуете, нами будут опротестованы. А что большинство такое, а не другое, тут ничего пока не попишешь. Но придется менятся всем и им тоже, раз есть такие рабочие, как Михаил Соболь. А я думаю, что большинство таких. Очень прошу голодовку прекратить. Алесь Адамович."

28 т р а ў н я. Вынікі выбараў у Вярхоўны Савет далі

М.Собалю яшчэ адну падставу працягваць ягоную акцыю. Побач з галадоўшчыкам а 16.00 зьявіўся плакат:

"НАРОДНЫ дэпутат С.Шушкевіч кандыдатамі ў Вярхоўны Савет СССР прапанаваў НАРОДНЫХ дэпутатаў ад Беларусі А.Дабравольскага, А.Жураўлёва, С.Габрусева, В.Карніенку. Але Я.Сакалоў (І сакратар КПБ) ад імя большасьці беларускай дэлегацыі заблакіраваў тых, каму я давяраю. Я АДМАУЛЯЮ Ў ДАВЕРЫ ДЭПУТАТУ Я.САКАЛОВУ!"

Празь некалькі хвілінаў пад гэтым плакатам распачаўся стыхійны збор подпісаў, і да 20.00 наступнага дня недавер дэпутату выказаў 4941 чалавек. Наогул, пад час галадоўкі пахіснулася шэрая недатыкальнасьць плошчы перад Домам ураду. Яна стала і Гайд-паркам, і чытальнай залай, і палітычным клубам. Людзі абмяркоўвалі становішча на Зьезьдзе, выказвалі незадаволенасьць складам і выступамі прадстаўнікоў беларускай дэлегацыі, абураліся маўклівасьцю дэпутатаў, якім выказаў давер Беларускі Народны Фронт. Каля месца галадоўкі Рада БНФ Маскоўскага раёна выставіла інфармацыйны стэнд "Адраджэньня" з выданьнямі, забароненымі вядомым указамі. "Малы друк" распавядаў пра падзеі ў Сумгаіце і Тбілісі, пра дасягненьні народных рухаў у Балтыйскіх рэспубліках, знаёміў з тэкстамі сакрэтных пратаколаў пакту Молатава -- Рыбентропа. Каб адлюстраваць розныя пункты погляду, насупраць "Навінаў" і "Супольнасьці" быў падвешаны на матузку "Политический собеседник".

Увечары, зважаючы на вялікую актыўнасьць людзей, Рада БНФ Маскоўскага раёна вырашыла правесьці перад Домам ураду мітынг, каб абмеркаваць становішча на Зьезьдзе і выказаць дэпутатам волю выбаршчыкаў.

29 т р а ў н я. Раніцой супрацоўнікі міліцыі разламалі сонечны тэнт галадоўшчыка. У сярэдзіне дня на плошчы зьявіўся аўтобус з прадстаўнікамі гарвыканкаму і міліцыянтамі. Яны зьнялі аб'яву пра мітынг і спрабавалі канфіскаваць інфармацыйны стэнд, але людзі, якія знаходзіліся на плошчы, перашкодзілі гэтаму.

А 20.00 на несанкцыянаваны мітынг перад Домам ураду сабралося больш за 10 тысяч чалавек. Пра рашучыя настроі людзей сьведчылі ўзьнятыя транспаранты: "Мы з вамі -- Адамовіч і Папоў, Сахараў і Афанасьеў, Шушкевіч і Ландсьбергіс!", "Чаму Сакалоў вырашае за ўсіх дэпутатаў Беларусі?" і інш. Пякучы сорам за беларускую дэлегацыю і надзея, што хтосьці з дэпутатаў усё ж здолее ўзьняць жыцьцёва важныя пытаньні Чарнобыльскай бяды і палітычнай сітуацыі ў Рэспубліцы, скразілі ў словах кожнага прамоўцы. Ад імя Аргкамітэту і раённых радаў БНФ зноў прагучаў зварот да М.Собаля спыніць галадоўку. Ён прыняў гэтую прапанову і быў узнагароджаны воплескамі: за мужны пачатак і за мужнае заканчэньне галадоўкі. Па пытаньнях, якія ўздымаліся на мітынгу, былі прынятыя рэзалюцыі і накіраваныя тэлеграмамі на адрас прэзідыума Зьезда, народным дэпутатам А.Адамовічу, В.Быкаву, А.Дабравольскаму, А.Жураўлёву, М.Ігнатовічу і С.Шушкевічу, у Камітэт абароны Гдляна. Сьпецыяльная рэзалюцыя была прынятая адносна Устаноўчага зьезду БНФ.

7 ч э р в е н я. Народны суд Маскоўскага раёна г.Менска за арганізацыю і удзел у несанкцыянаваным мітынгу 29 траўня на плошчы Леніна аштрафаваў: кіраўніка Рады БНФ Маскоўскага раёна Сяргея Міхнова -- на 300 руб.; сябра Аргкамітэту БНФ Віктара Івашкевіча -- на 200 руб.; сябра Рады БНФ Савецкага раёна Міхаіла Собаля -- на 150 руб. Мяркуецца правесьці масавыя акцыі па зборы ахвяраваньняў на ўплату штрафаў.

## МІТЫНГ 29 ТРАЎНЯ ПЕРАД ДОМАМ УРАДУ
(фрагменты асобных выступаў і рэзалюцыі)

Валеры ГАРБАЧОЎ, даверанная асоба дэпутата С.Шушкевіча: "Агрэсіўна-паслухмяная большасьць", як трапна назваў яе дэпутат Афанасьеў, імкнецца пусьціць Зьезд па вызначаных адміністрацыйна-камандавай сістэмай рэйках. Прабіцца да трыбуны вельмі складана. Гэта тычыцца як усяго Зьезда, так і асабліва беларускай дэлегацыі. Многія з вас памятаюць, што ў нашага дэпутата прафесара Шушкевіча распрацаваная дакладная і пасьлядоўная канцэпцыя ліквідацыі вынікаў Чарнобыльскай катастрофы. Зьезд ня зможа ігнараваць пастаноўку гэтага пытаньня, калі мы завалім яго тэлеграмамі з патрабаваньнямі даць Шушкевічу слова і прыняць рашэньне па праблеме Чарнобыля. Тыя, каго хвалюе лёс народа, лёс дзяцей, якія жывуць там, дзе і дарослым жыць нельга, не пашкадуйце часу і накіруйце на адрас прэзідыума Зьезда або дэпутата Шушкевіча адпаведную тэлеграму. Мы ўсе бачым, што большасьць на Зьезьдзе не адлюстроўвае інтарэсы выбаршчыкаў. Мяркую, што ў нашай Рэспубліцы нашмат болей, чым тыя 50 -- 60 працэнтаў, пра якія паведамлялася ў праграме "Время", незадаволеныя палітыкай большасьці. Напэўна, сёньня рэальна паўплываць на работу Зьезда мы ўжо ня здолеем. Але давайвайце памятаць, што ў нас наперадзе новыя выбары -- у Вярхоўны Савет БССР і мясцовыя органы ўлады. Наколькі мне вядома, праект рэспубліканскага Закона аб выбарах ужо падрыхтаваны. У ім засталіся ўсе важныя для бюракратыі інстытуты: акруговыя сходы і вылучэньне ад грамадскіх арганізацыяў. Зьбіраюцца і надалей выкарыстоўваць такі прыём, як вылучэньне некаторых непапулярных лідэраў у сельскіх акругах. Заклікаю сёньняшні мітынг прыняць рэзалюцыю з патрабаваньнем дэмакратызацыі Закона аб выбарах.

Ірына КІСЯЛЁВА, журналістка: На Беларусі, у зонах, забруджаных вышэй 15 кюры/км кв., жыве 63305 дзяцей (у папярэднім "Экспрэсе" прыводзілася лічба 86101, у якую уваходзяць таксама маці дзецей да 6 годоў. -- Рэд.). А усяго па Гомельскай вобласьці жыве болей 85 тысяч, па Магілёўскай -- болей 108 тысяч чалавек. Яны жывуць у такіх зонах, у якіх у фантастычных раманах працуюць сталкеры. Гэта зоны той насычанасьці радыёнуклідамі, пры якой у лабараторыях належыць захоўваць усе правілы тэхнікі бясьпекі. Наш урад гэта дапусьціў. Ён дапусьціў і тое, каб старшынёй групы Урадавай камісіі СССР, якая працавала ў Магілёўскай вобласьці, стаў намесьнік міністра атамнай энергетыкі Ул.Мар'ін. Вынікі працы гэтай групы разглядаліся 15 траўня ў Магілёве. Усе члены маскоўскай камісіі спрабавалі пераканаць людзей са Слаўгарада, Чэрыкава, Краснапольля, што яны могуць нараджаць дзяцей, расьціць іх, піць "бруднае" малако. На гэтай нарадзе называліся вёскі, дзе забруджанасьць вышэй за 141 кюры/км кв. Напрыклад, вёска Чудзяны. Там дзеці, якім зараз 3 -- 4 гады, ўжо набралі 25 -- 30 бэр, хаця за ўсё жыцьцё яны павінны набраць ня болей 35 бэр. Хто адкажа за гэтых дзяцей? На гэтай нарадзе высьветлілася, што ніводная вёска, ніводзін калгас або саўгас на забруджаных тэрыторыях ня мае закрытых аўтобусаў для перавозкі дзяцей. З раніцы да вечара дзеці сядзяць у школах з зачыненымі вокнамі -- іх нельга выводзіць на вуліцу. На апублікаваных нядаўна картах мы ўбачылі месцы, дзе нельга зьбіраць грыбы. Але ўявіце сябе вясковых дзяцей, якія ня будуць там зьбіраць ягады. Дырэктар саўгаса "Сьцяг" Чэрыкаўскага раёна І.Максіменка распавёў на нарадзе, што калі да іх прыязджаў Г.Таразевіч, і яму гаварылі пра ўсё гэта, той

паабяцаў або на пряцягу двух тыдняў вырашыць пытаньні, або падаць у адстаўку. Таразевіч прыязджаў 18 красавіка. Пытаньні саўгаса "Сьцяг" нявырашаныя дагэтуль. Хто адкажа, што беларускі народ асуджаны на хваробы і выміраньне? У Крычаве прастойвае лінія па мясу і малаку: няма тары -- пластмасавых упаковак для сьмятаны, латкоў для мяса -- каб забясьпечыць людзей "чыстымі" прадуктамі. Няма рэфрыжэратараў, прадукты псуюцца. У Магілёўскай вобласьці не хапае чатырох асфальтаўкладчыкаў. І наш урад ня можа вырашыць нават такія ганебныя пытаньні! Нашыя прапановы: няхай Рэспубліканская камісія па ліквідацыі вынікаў аварыі дасьць справаздачу перад грамадскасьцю; няхай сьпецыяльная грамадская камісія падрыхтуе пытаньні да гэтай справаздачы; там павінны прысутнічаць незалежныя журналісты, якім будзе гарантаваная паласа ў газеце. Я ўпэўненая, што даць справаздачу камісія ня здолее. І тады мы паставім пытаньне пра адстаўку гэтага ураду.

Тамара БЕЛАВОКАЯ, медык (Інстытут радыёмедыцыны): На думку навукоўцаў, пік вынікаў Чарнобыльскай аварыі пачнецца прыблізна праз сем гадоў. Але ўжо сёньня па дадзеных, напрыклад, Хойніцкай раённай бальніцы выяўленае павелічэньне выродлівасьцяў. Ужо сёньня выяўленае павелічэньне інфекцыйных захворваньняў па раёнах Гомельскай і Магілёўскай абласьцей. Ужо сёньня бачна, што паслаблены імунітэт. Звычайная хвароба цягнецца даўжэй і цяжка пераносіцца. Але, нягледзячы на тое, што ў Рэспубліцы створаны сьпецыяльны Інстытут радыёмедыцыны з клінікай, каб вырашаць гэтыя праблемы, мы, медыкі, бяззбройныя. Супрацоўнікі нашага Інтытута едуць у забруджаныя раёны са стэтаскопамі, працуюць па дапатопных методыках. У нас няма ані належнай дыягнастычнай, ані лячэбнай апаратуры. Патрэбныя перасоўныя мабільныя лабараторыі. Падобнай айчыннай апаратуры няма наогул, а каб набыць імпартную, мы ня маем валюты. І хаця Савецкі фонд міру выдзеліў нам два мільёны народных грошай, мы, маючы мільёны, зьяўляемся жабракамі. Бо што можна купіць за гэтыя грошы? Патрэбную апаратуру нам маглі б дапамагчы набыць палякі (яны неяк умеюць гандляваць з тымі дзяржавамі, дзе яна выробляецца), але, каб разьлічыцца з палякамі, патрэбная пабытовая тэхніка. Калі немагчыма вырашыць гэтыя пытаньні ў Рэсбліцы, мы павінны зьвярнуцца да Зьезда народных дэпутатаў.

Мікола ШЭЛЯГОВІЧ, лідэр аб'яднаньня "Палісьсе": Дазвольце мне, палешуку, папрасіць прабачэньне, за тое, што на нашай зямлі на крэсла народнага дэпутата ўзьлез Я.Сакалоў. Дэпутацтва Сакалова -- сорам палешукоў. Рух за Адраджэньне Палесься распачаў збор подпісаў, каб паставіць паўнамоцтвы такіх дэпутатаў, як Сакалоў, Скокаў, Пасьнікаў, Зелянкоўскі, Паўленка і Бурскі, пад сумненьне. Гэта ўсё палескі рэгіён. Зворочеюса до всіх полышукiв, яко тутыкы есьтя. Йідьтэ на Полісьсе, заклыкайтэ таксамо, будітэ, шоб кажон полышук пудвіўса. Шоб ныбуло нам стыдно пырыд людьмы, пырыд світом. Мусово отклыкаты ныльдовых дыпутатэй.

Міхась СОБАЛЬ, рабочы: Я пачаў сваю галадоўку праз дзьве гадзіны пасьля пачатку Зьезда. Каротка распавяду пра свае чатыры гады перабудовы. Спачатку я гатовы быў маліцца на свайго цёзку (няхай не палічыць за панібрацтва) Міхаіла Сяргеевіча. Але, калі на XIX партканферэнцыі Ягор высьвятляў адносіны з Барысам, па-панібрацку ляпаючы па плячы 280 мільёнаў, я пачуў для сябе першы званок. Сёньня на Зьезьдзе той самы Ягор ужо

высьвятляе адносіны з Тэльманам. Я шмат чаго чакаў ад Зьезда, але за гэтыя дзьве гадзіны пабачыў толькі лялечны тэатр, дзе ніткі, на якіх падвешаныя лялькі, нават не палічылі патрэбным пафарбаваць пад колер заслоны. Таму больш я ў аніякіх багоў ня веру. І вас заклікаю да таго самага. Трэба спадзявацца толькі на таго бога, які жыве ў кожнага ў галаве. А вось аб'яднацца ўсім гэтым багам, г.зн. нам: рабочым, тэхнічнай і творчай інтэлігенцыі -- сёньня, напэўна, зручней у народным руху -- Беларускім Народным Фронце, бо ён яшчэ не пасьпеў і ня здолеў прыдбаць тыя праславутыя "дэфармацыі". Мая галадоўка -- гэта здаровая савецкая неабходнасьць. Не я, дык пачаў бы хтось іншы. Я ўдзячны вам за падтрымку. За пяць дзён я убачыў, што гэта за сіла. За кожны дзень майго сядзеньня ў сьпісе недаверу Я.Сакалову дадавалася некалькі тысячаў прозьвішчаў. А тыя, хто з раніцы да вечара спрабавалі ўчыніць правакацыю, толькі прадэманстравалі слабасьць сістэмы . Правакацыя -- яе адзіная апора. З удзячнасьцю да вас я галадоўку сваю скончаю.

Пётр КРАЎЧАНКА, сакратар Менскага гаркама партыі: Я ўжо ня першы раз чую на мітыгах выступы ветэрана журналістыкі Ірыны Кісялёвай. Ірына Васільеўна, вы назвалі мноства канкрэтных, вострых, верагодна,недзе правільных момантаў, зьвязаных з Чарнобылем. Я прапаную, каб заўтра, пасьлязаўтра вы гэтую інфармацыю перадалі у газету "Вячэрні Мінск". (Сьмех.) Ёсьць у нас і галоўны санітарны ўрач Рэспублікі, ёсьць камісія. Сапраўды трэба разьбірацца. Як і многія з вас, я лічу, што з вынікамі Чарнобыля вельмі шмат няяснага. І Шушкевіч -- сьпецыяліст, і Пятраеў -- сьпецыяліст, і прыязджалі камісіі Акадэміі медыцынскіх навук СССР, але, бідаць, ёсьць рэчы, якія, зыходзячы з сучаснага ўзроўню ведаў, нельга ацаніць і дакладна спрагназаваць. Я перакананы, што сёньняшні узровень асэнсаваньня зьвязаных з Чарнобылем праблемаў патрабуе паглыбленьня. Нам патрэбная сістэма своеасаблівага маніторынгу для дакладнай аўтаматызацыі і кантролю за вынікамі аварыі. Ёсьць тэарэтычныя распрацоўкі прафесара БДУ Барышэўскага -- гэтая сістэма асэнсаваная і зробленая, яе трэба зараз рэалізаваць. Упэўнены, што на працягу бліжэйшых месяцаў, магчыма, наступнага году такая сістэма павінна пачаць дзейнічаць. Заяўляю, што кожны тыдзень мы павінны дакладна ведаць усе канкрэтныя дадзеныя: забруджанасьць паветра, грунту, вады і г.д. Калі рыхтаваўся выступ тав. Сакалова на апошні Пленум (Яфрэм Яўсеевіч, на жаль, ня выступіў), туды быў уключаны тэзіс пра аднаўленьне работы на сталай аснове, са знаходжаньнем у Рэспубліцы камісіі тав. Шчарбіны, нам. Старшыні Савета Міністраў СССР. Як увесь сьвет займаецца Арменіяй, так і саюзныя інстанцыі павінны займацца Беларусьсю. Я не выключаю магчымасьць замежнай дапамогі. Мы павінны атрымаць адказ на пытаньне, што чакае генафонд нацыі і якія нашыя персьпектывы. Наколькі вялікая небясьпека? Як сакратар гарадскога камітэта партыі я падтрымліваю патрабаваньне публічнай справаздачы перад грамадскасьцю Рэспубліканскай камісіі па ліквідацыі вынікаў аварыі. Яна павінна праходзіць або на адкрытым месцы, або у Доме палітасьветы. Павінна быць яе прамая трансьляцыя па тэлебачаньні.

Р э з а л ю ц ы я 1.

Крайне обеспокоены тем, что в состав Верховного Совета СССР вошли Е.Соколов и Г.Таразевич -- представители самого непопулярного руководства за всю историю Советской власти в Белоруссии. На них лежит ответственность за замалчивание истинных последствий Чернобыльской катастрофы. Они несут ответст-

венность за события 30 октября 1988 года в Минске, которые стали генеральной репетицией последовавшей вскоре трагедии в Тбилиси. Г.Таразевич подтвердил свою репутацию, отказавшись встретиться с журналистами, которые ведут независимое расследование в Грузии. Возмущены выступлением Е.Соколова на съезде народных депутатов, в котором он отклонил предложения депутата С.Шушкевича. Обращаемся к избирателям 549-го Кобринского территориального округа с просьбой отозвать депутата Е.Соколова.

Р э з а л ю ц ы я 2.

Требуем предоставить слово для выступления о чрезвычайной экологической ситуации в Белоруссии нашему депутату Шушкевичу Станиславу Станиславовичу.

Р э з а л ю ц ы я 3.

Обращаемся к народным депутатам СССР А.Добровольскому, Н.Игнатовичу, С.Шушкевичу, А.Журавлеву с призывом приступить к выполнению предвыборных программ и наказов избирателей:

1. Поставить на Съезде вопрос о судьбе жителей Белоруссии, прежде всего детей, оказавшихся в зонах радиоактивного заражения, ибо правительство практически не применяет мер по их спасению.

2. Поставить вопрос об отмене Съездом антидемократических законов о митингах и спецвойсках, поправок к уголовному законодательству от 8 апреля 1989.

3. Поставить вопрос об отмене института окружных предвывыборных собраний.

4. Поставить вопрос об отмене ст. 6 Конституции СССР.

Р э з а л ю ц ы я 4.

Мы, жители Минска, 30 октября 1988 приняли на себя удар спецвойск, водометов, дубинок и газов. Именно такие спецсредства были применены при разгоне мирного шествия минчан, которые направлялись к могилам предков в День поминовения усопших. Ни один из тех руководителей города и Республики, которые санкционировали расправу над своим народом, до сегодняшнего дня не привлечен ни к уголовной, ни к партийной ответственности, не смещен с занимаемой должности.

Реакция демократической общественности страны на белорусскую прелюдию к грузинским событиям была недостаточно активной и действенной. Именно поэтому произошла Тбилисская трагедия. Сегодня, как никогда, необходима консолидация демократических сил страны.

Белорусский народ солидарен с народом Грузии в требовании гласного и обьективного расследования произошедшей трагедии, поименного оглашения на Съезде и последующего привлечения к ответственности виновников убийства мирных жителей в Тбилиси. Должностные лица, санкционировавшие применение отравляющих веществ, дубинок и саперных лопат против своих сограждан, скрываются за ширмой коллегиальной безответственности и анонимности высшего эшелона партийной и государственной власти.

Те, кто создал, подписал и дал санкции на применение антидемократических законов о спецвойсках, митингах и демонстрациях, являются прямыми соучастниками преступления против человечности в Грузии, против создания у нас правового государства, против Всеобщей Декларации прав человека и Венской конвенции.

Мы возмущены тем, что председателем правительственной комиссии СССР по расследованию грузинской трагедии сочли возможным назначить Председателя Президиума Верховного Совета БССР

депутата Г.Таразевича -- одного из инициаторов создания сложной политической ситуации в Белоруссии, человека, на котором лежит ответственность за 30 октября!

Мы выражаем сомнение в способности Г.Таразевича занять принципиальную, объективную позицию, отступить от активной защиты антиперестроечных сил страны.

Р э з а л ю ц ы я 5.

Выражаем полную поддержку линии, направленной на создание правового государства, неуклонное соблюдение Всеобщей Деларации прав человека и Венской конвенции.

Однако нас крайне беспокоит тенденциозная оперативность становящихся систематическими политических расправ с лицами, идущими в авангарде перестройки, одностороннее публичное выпячивание действительных или мнимых недостатков и ошибок. Мы имеем в виду создание нездоровой сенсационности вокруг депутатов Гдляна и Иванова, нагнетание страстей и формулировку сверхоперативных негативных выводов об их работе до вынесения юридически обоснованных зазаключений независимыми комиссиями.

Считаем необходимым включить в состав комиссии Верховного Совета по "делу" Гдляна депутата от г.Минска -- следователя по особо важным делам Прокуратуры БССР Н.Игнатовича.

Р э з а л ю ц ы я 6.

Патрабуем ад рэспубліканскага і гарадского кіраўніцтва дазволу на правядзеньне Устаноўчага зьезду Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" у г.Менску 24 -- 25 чэрвеня на прымальных для БНФ умовах.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ РАДЫ БЕЛАРУСКАГА КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА "СЬВІТАНАК" У ЛАТВІІ ПРЭЗІДЫУМУ ВЯРХОУНАГА САВЕТА БССР

Стан трывожнага прадчуваньня бяды зьмяшчае ў сабе ёмістае беларускае слова -- ЖУДАСЬЦЬ. Перабудова ў краіне ператвараецца ў нуднае і прыгнятальнае чаканьне чарговага гістарычнага пленума або ўказа. Злачынная сталінская сістэма абрала Беларусь выпрабавальным палігонам паскоранай асіміляцыі нацыяў, якія маршыруюць у камуністычную будучыню. Нашчадкі бацькі крывага генацыду, асьлепленыя нянавісьцю, імкнучыся затаптаць абуджаную нацыянальную самасьвядомасьць беларускага народа, выдаюць абсурдны указ, які забараняе нацыянальныя сімвалы. Беларускія сімвалы нацыянальнага гонару задушаныя і пашматаваныя на заранку калектывізацыі, і наўрад ці хто з выдаўцоў указа і ягоных ідэолагаў -- персанальных пенсіянераў НКВД -- бачыў у руках "ваяўнічых беларускіх нацыяналістаў" бела-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня". Гістарычная нацыянальная сімволіка належыць беларускаму народу, і народ сам мае права распараджацца сваёй гісторыяй, нацыянальнай культурай, сваёй мовай на сваёй уласнай зямлі. Адвечны гонар народу, за які беларусы заплацілі мільёнамі чалавечых жыцьцяў, аўтары ўказа ацанілі ў 50 рублёў штрафу. Слабавата для нашчадкаў Мураўёва-вешальніка і крывавага ката Сталіна.

Ня пройдуць таксама і спробы ідэолагаў псеўдаперабудовы пасяяць зерні варожасьці паміж беларускім і латышскім народамі. Сотні гадоў жывуць беларусы на зямлі латышоў. Латвійская Рэспубліка ў цяжкія для беларускай нацыянальнай культуры 1930-я гады захоўвала і ўсімі сіламі падтрымоўвала беларускія асяродзьдзіна сваёй нацыянальнай тэрыторыі. Маці-Латвія ў часы фашысцкага генацыду прахляла вартую жалю жменьку вырадкаў, да-

ла на сваёй зямлі прытулак тысячам дзяцей са спаленых беларускіх вёсак. Народы-браты падзялілі жах масавых дэпартацыяў.

Мы выказваем свой пратэст Прэзідыуму Вярхоўнага Савета Беларусі. Патрабуем спыненьня перасьледу і хлусьлівых нападак на ўдзельнікаў Беларускага Народнага Фронту. Беларускае культурнае таварыства "Сьвітанак" аддае свой голас у падтрымку Беларускага Народнага Фронту, праграма якога адпавядае задачам перабудовы, дэмакратыі, сяброўства народаў, адраджэньня нацыі і вяртаньня ёй гістарычных і культурных сьвятыняў.

БКТ "Сьвітанак" будзе дастаўляць ва ўсе раёны шматпакутнай гістарычнай Бацькаўшчыны сапраўдную інфармацыю пра дэмакратычныя працэсы, якія адбываюцца ў Латвіі, і адраджэньне яе народа.

У адказ на зьнявагу нацыянальных сьвятыняў, у адпаведнасьці з Дэкларацыяй Форума народаў Латвіі, БКТ "Сьвітанак" пакідае за сабою права гонару за бела-чырвона-белы сьцяг і герб "Пагоня".

## ● КОПІЦЬ НАМ ЧАРНОБЫЛЮ

Івар Гамаюн

"Мірны атам -- у кожную хату!" --
Такі вось лозунг усе мы чулі.
Дзякуем шчыра! Мы вельмі рады.
Заходзьце, мы атамам пачастуем.
А эь Беларусі ляцелі гусі.
Добрыя гусі, ды нельга есьці:
Хоць тры разы вары ў капусьце,
Але ня эьменшыш працэнту сьмерці.
А наша хата ўсім багата,
Таму нас, пэўна, так любяць госьці.
І каб у хатах ня зьвёўся атам,
Нам прапануюць: "АЭС узносьце!"
Ай, дзякуй, людцы, за вашу ласку --
Гасьцям харошым адчынім хату.
Мы на закуску заб'ём вам гуску --
Хай будзе смачны вам мірны атам!

(Верш перадрукаваны зь бюлетэня "Рэанімова" гарадзенскай суполкі імя Максіма Багдановіча.)

[illegible] Я ВЕДАЮ, ШТО ПРЫ СЛОВАХ "НЕПАРУШНЫ", "НЕПАДЗЕЛЬНЫ", "[illegible]АДЗІНЫ", КАЛІ ІХ ГАВОРЫЦЬ МАЦНЕЙШЫ, САПРАЎДНЫХ ЛЮ[illegible]ЕЙ ЦЯГНЕ РАЗЬБІЦЬ НЕПАДЗЕЛЬНАСЬЦЬ, РАЗБУРЫЦЬ НЕПА[illegible]ШНАСЬЦЬ, БО ГЭТА ЗАМАСКАВАНЫ ЛАНЦУГ РАБСТВА.

Уладзімер Караткевіч.
Каласы пад сярпом тваім.

---

Выпуск падрыхтавалі А.Кавальчук, С.Драч.
8 чэрвеня 1989.